РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, ПАСТАВЫ, МЁРЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Жыве Беларусь!

Free Hlybokaye · Wolne Glebokie

*Дык жа ўцям! На Беларусі -- беларусы жывуць!*
*(Я. Купала)*

Выдаецца са снежня 1994 года | № 1-2 (19 -20), красавік, 1999 год. | Кошт па дамове



Вясна 1999. Паводка ў Глыбокім.
Фота Ул. Скрабатуна

Пасля маласнежнай і цёплай зімы у пачатку сакавіка на наш край абрынуліся снегапады. Ужо тады можна было прагназаваць сур`ёзную паводку. Але такую, пік якой назіраўся 30 -31 сакавіка, нават старажылы Глыбокага з цяжкасцю згадваюць , якая здарылася сёлетняй вясной. У раёне вуліц горада: Фізкультурнай, Вольнай, Савецкай і Ламаносава, вадой было затоплена 17 жылых дамоў і 19 надворных пабудоў. З некаторых дамоў гаспадары вымушаны былі часова перабрацца на другое месца жыхарства. Усяго ў падтопленых дамах пражывала 63 чалавекі.

Адмыслова створаная камісія абследавала ўсе затопленыя дамы. Высновы абследвання былі накіраваны ў раённую камісію па надзвычайных сітуацыях. Ёсць меркаванне, што глыбачанам, якія пацярпелі ад наступстваў паводкі, будзе выдаткавана дамамога ў памеры ад 10 да 15 мінімальных заробкаў.

## "Цуды" беларускай эканомікі

Па афіцыйных звестках, эканоміка Беларусі працуе ў рэжыме эканамічнага цуда. Рост валавога ўнутранага прадукта (ВУП) за 9 месяцаў мінулага года ў параўнанні з аналагічным перыядам 1997 года склаў 10%, Калі ў апошнія месяцы пагаршэння не будзе, то за год ВУП на душу насельніцтва складзе 528$. Для параўнання, у Польшчы ён перавышае 5 000$, у Чэхіі -- 6 000$, Венгрыі -- 5 500$, у Славеніі -- 10 000$. Ні ў адной з гэтых краін няма абмежаванняў на продаж масла, цукру, круп... Няма чэргаў і за яйкамі.

*БелаПАН*

## Чакаем "Прэзідэнта"

*Хутка ў глыбоцкіх крамах можа з`явіцца новы тэлевізар "Прэзідэнт". Рэч у тым, што на віцебскім тэлезаводзе "Віцязь" распрацоўваецца такая мадэль тэлевізара, якая будзе мець вышэйзгаданую назву.*

Адзін з вядучых спецыялістаў завода "Віцязь" сказаў, што навічка яшчэ знаходзіцца ў стадыі эскізу. Ад папярэдніх мадэляў яна найперш будзе адрозніваецца знешнім выглядам. Са словаў дызайнера, тэлевізар набудзе больш вытанчаную форму. Калі тэлевізар атрымаецца ўдалы, то прэзідэнт Лукашэнка будзе задаволены. А ў выпадку, калі мадэль не спраўдзіць спадзяванняў, можна сказаць, што названа яна была ў гонар прэзідэнта ЗША.

*Паводле "Навіны"*

## Цытата нумара

На думкі трэба нападаць з дапамогай думак: па ідэях не паляць з ружжаў.

*А. Рывароль.*

## Аграрны сектар Беларусі знаходзіцца ў стане фінансавага крызісу

З 2 500 гаспадарак каля тысячы не прыносяць прыбытку, з іх 249 -- па сутнасці банкруты, 700 стаяць на мяжы банкрутства. Кожны год дзяржава вымушана выдзяляць на пасяўную і ўборку крэдыты, эквівалентныя 50 мільёнам долараў, не спадзеючыся на вяртанне сродкаў. У Беларусі калгасы з`яўляюцца больш палітычнай структурай, чым гаспадарчай. Яны дзейнічаюць па ўказцы вертыкалі.

Рэальным шляхам рашэння праблемы беспрыбытковых гаспадарак з`яўляецца іх працейшая рэструктарызацыя. Сутнасць яе ў наступным. Сельгаспрадпрыемства ліквідуецца. Усе працаздольныя атрымоўваюць не меньш двух гектараў зямлі. На 4 - 5 семей выдзяляецца конь. Усе жадаючых такім чынам змогуць пракарміць сябе. Астатнія землі перадаюцца лясгасам. Дзяржава здымае з сябе клопаты, якія ёй не па кішэні.

*БелаПАН*

## Праблема ў палітыцы

Вера Віктараўна Белавус, дырэктар Наваполацкай друкарні, адмовіла ў друкаванні газеты "Вольнае Глыбокае". Як мне падаецца, сур`ёзных прычын для адмовы ў яе не было. Ці можна лічыць нагодай для адмовы той аргумент, што "Вольнае Глыбокае" змяшчае артыкулы на палітычныя тэмы, у прыватнасці, кампаніі БелаПАН, з якой мы заключылі дамову і кампанія пастаўляе нам інфармацыю бясплатна?

-- Я -- супраць палітыкі,- - кажа Вера Віктараўна. Я не хачу згубіць з-за вашай газеты працу, нават за такую зарплату я працую чэсна, і мае бацькі і дзяды таксама працавалі чэсна. Я паказваю ёй Пасведчанне аб рэгістрацыі нашага выдання, дзе ў графе "тэматыка выдання", напісана: "масава-палітычная, вытворча-практычная, гісторыя, краязнаўства, фальклор, для вольнага часу, старонка для жанчын". Ну і што, няхай кампанія БелаПАН сама друкуе свае матэрыялы, дзе заўгодна, а я не буду.

На развітанне я сказаў, што "прыйдзе час і Вам сорамна будзе глядзець нам у вочы". -- Можа і так.-- падсумавала Вера Віктараўна.

Друкаваць газету ў Наваполацкай друкарні для нас было самым выгадным варыянтам. Найперш таму, што невялікая адлегласць, па-другое -- у перспектыве мы збіраліся перайсці на тыднёвік і гэтая друкарня нам бы забяспечвала апаратыўнасць. Выйсце мы знойдзем, але просім прабачыць чытачоў у перапынку з выхадам газеты, які склаўся не па нашай віне.

*Ул. Скрабатун*

## Сумная перспектыва

У 1993 годзе пачаўся працэс самазнішчэння генетычнага фонду беларускага народа. Калі не будуць прыняты меры па яго спыненню, то праз 100 год на зямлі не застанецца ніводнага беларуса, як не засталося скіфаў, хазар, сарматаў, урартыйцаў, кімерыйцаў, майя, кічэ, малі і іншых народаў. Па дадзеных анколагаў, да 2000 года кожны другі жыхар Беларусі можа стаць анкалагічна хворым. Ужо зараз колькасць насельніцтва Беларусі падтрымліваецца толькі за кошт міграцыі. Калі ў 1997 годзе з Беларусі выехала каля 50 тысяч чалавек, то прыехала больш 80-ці. На вымiранне нацыі аказвае ўплыў радыяцыя, хімізацыя сельскай гаспадаркі, забруджванне навакольнага асяроддзя, алкагалізм, наркаманія, рост злачыннасці і ўзровень нашага жыцця, а таксама рост узроўня дэбілізацыі (у Беларусі нараджаецца зараз каля 12% дэбілаў).

## Помнік Адаму Міцкевічу

У сталічным скверы, які прылягае да вуліц Няміга, Гарадскі Вал і Валадарскага будзе ўстаноўлены помнік Адаму Міцкевічу. Вясной 1998 г. кіраўніцтва Саюза палякаў Беларусі падарыла невялікі бюст паэта, які меркавалася ўстанавіць у адным са сквераў сталіцы. Аднак міністэрства культуры вырашыла зрабіць свой праект. Скульптары Аляксандр Фінскі і Андрэй Засліцкі распрацавалі канчатковы варыянт помніка. Паэт ў роздуме сядзіць, абапёршыся на ажурную агароджу. На думку А. Фінскага, адкрыццё помніка А. Міцкевічу можа адбыцца ўжо сёлета восенню.

*БелаПАН*

## інфармацыйны блок

# ПРЫСТУПКІ

### падзеі і факты без каментарыяў

❑ Дэпутат ад апазіцыі ў Паўднёвай Карэі пісьменнік Кім Хон Цын выступіў за легалізацыю гандлю сабачацінай. Сабачае мяса традыцыйна лічыцца ў Карэі ўзмацняючай здароўе ежай, якая добра ўплывае на мужчынскую сілу.

❑ Служба здароўя ў Тайландзе знайшла новы і арыгінальны метад барацьбы супраць курэння. Міністэрства аховы здароўя абавязала вытворцаў цыгарэт пісаць на пачках **"курэнне спрыяе імпатэнцыі"**. Прадстаўнік ведамства назваў ініцыятыву "шакіруюча карысная".

❑ Глыбоцкі раён створаны 15 студзеня 1940 года.

На 1 студзеня 1999 года тут пражывала 49,3 тысячы чалавек (з іх 27,7 тысяч сельскія жыхары; 16 тысяч пенсіянераў.)

❑ У Глыбоцкім раёне 16 праваслаўных, 9 каталіцкіх, 3 пратэстанцкія, 1 стараабрадная, 1 масульманская рэлігійныя абшчыны.

❑ На стану на 1 студзеня 1999г. у Шаркоўшчынскім раёне працуюць 42 фермерскія гаспадаркі. Сярэдні памер фермерскай гаспадаркі складае 19 гектараў.

❑ У расійскіх турмах зараз знаходзіцца каля 1 млн. чалавек. Мяркуецца, што ў выніку амністыі на волю выйдзе каля 94 тысяч асуджаных.

❑ Па інфармацыі Генпракуратуры, летась з Расіі было незаконна вывезена 9 мільярдаў долараў.

❑ Самы прадуктыўны "футравы" раён Віцебшчыны -- Браслаўскі. Тут у двух гаспадарках разводзяць норак, ліс і пясцоў.

❑ Самы "лісі" калгас "Дружба" Браслаўскага раёна.

А па вобласці за мінулы год забіта на шкуры 11. 890 галоў норак, 1.027 чарнабурых лісіц і 2.830 галоў пясцоў.

❑ На сёння ў шасці выпраўленча-працоўных калоніях віцебскай вобласці ўтрымліваюцца больш 13,5 тысячы чалавек, па рэспубліцы -- больш 72 тысяч.

❑ Недабор зерня ў параўнанні з папярэднім 1997 г., перавысіў 2 мільёны тон. Падвоілася колькасць стратных гаспадарак з 363 у 1997 годзе да 639 у 1998 . Агульная рэнтабельнасць знізілася на 3% і склала толькі 8%, што выключае якуюсьці магчымасць вядзення пашыранай вытворчасці. Крэдыторская запазычанасць калгасаў і саўгасаў перавысіла 28 трыльёнаў рублёў.

❑ У мінулым годзе сельская гаспадарка стала адзінай, якая ні па аднаму параметру не выканала гадавыя планы сацыяльна-эканамічнага развіцця.

### Навіны адным сказам

❑ У ходзе кампаніі па вылучэнню кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на тэрыторыі Глыбоцкага раёна было сабрана 523 подпісы выбаршчыкаў ў падтрымку лідэра БНФ Зянона Пазняка, за Міхаіла Чыгіра - 15.

❑ У Беларусі праводзіцца прыём заяў на атрыманне грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі. 136 чалавек з Глыбоччыны ўступілі ў грамадзянства БНР.

❑ 13 красавіка члены глыбоцкай раённай Камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія маюць адбыцца 16 траўня 1999 г., былі выкліканы да пракурора Глыбоцкага раёна сп. А.Н. Сеўрукова. Членам камісіі былі ўручаны папярэджанні "аб недапушчальнасці парушэння закона".

***Актуальна***

Балканскі крызіс яшчэ раз падкрэсліў, наколькі важкая ў любой дзяржаве выразная і зразумелая знешнепалітычная дактрына. Жорсткая пазіцыя краін -- удзельніц Паўночнаатлантычнага альянса заўсёды заставалася велічынёй пастаяннай -- нельга беспакарана парушаць правы цэлых народаў, забіваць ні ў чым не вінаватых жыхароў, праводзіць адкрыта этнічныя карныя аперацыі. Нават калі гэта адбываецца на ўласнай тэрыторыі.

*БелаПАН*

**У апошні тыдзень галоўнай падзеяй міжнароднага жыцця стала вайна ў Югаславіі. Інфармацыя з Балкан выцесніла ўсе другія навіны ў краіне і свеце. Прычым, як звычайна ў перыяды інфармацыйнага ажыятажа, на беларускім і расійскім ТБ свядома або несвядома запускаюцца міфалагемы, якія ад доўгага паўтарэння становяцца агульнымі фразамі, ператвараюцца ў аксіёмы. Створаная такім чынам несапраўдная сістэма каардынат становіцца пунктам адліку для новых высноў і ацэнак. Спынімся толькі на некаторых міфах, якія запушчаны ў зварот тэлеканаламі і другімі СМІ РБ і РФ.**

**БелаПАН**

*Валерый КАРБАЛЕВІЧ, політолаг*

# Міфы аб падзеях у Югаславіі

**Міф першы.** Акцыей NATO ў Югаславіі "разбураны светапарадак які ўжо склаўся, сістэма стрымак і супрацьвагаў, створаная ў Еўропе пасля другой сусветнай вайны (Н. Сванідзэ, "Зеркало").

Створаная пасля другой сусветнай вайны двухполюсная сістэма міжнародных адносін разбурана не ў выніку сённяшніх дзеянняў NATO, а некалькі раней, у пачатку 90-х гг., калі распаўся савецкі блок і камуністычная сістэма. І распаліся яны ў выніку ўнутранага крызіса, недасканаласці сацыяльнай мадэлі, якая не вытрымала выпрабаванне часам. А цяперашняя акцыя Захада зрабіла гэты факт відавочным не толькі для абывацеляў, але і для некаторых палітычных аглядальнікаў. Югаслаўскі крызіс толькі агаліў унутраную і міжнародную слабасць Расіі і дамінуючую ролю ў свеце заходніх краін.

**Міф другі.** "Не заручыўшыся санкцыяй Рады Бяспекі, ігнаруя ААН, якая забяспечвала пасляваенны мір на планеце, Захад разбурыў існуючы механізм міжнароднай стабільнасці і передухілення войн" (пасол РБ у ЗША В. Цапкала).

ААН ніколі не была надзейным механізмам, сур`ёзнай перашкодай для прадухілення войн. І ЗША, калі вяла вайну ў В`етнаме, і СССР, калі ўвяла войскі ў Венгрыю, Чэхаславакію, Афганістан, проста ігнаравалі ААН, дзейнічалі па праву дужага. Трэцію сусветную вайну прадухіліла не існаванне ААН, а міжнародны баланс сіл, які склаўся ў пасляваенны час.

**Міф трэцці.** Распачаўшы бамбёжку Югаславіі, Захад падмяніў міжнароднае права правам сілы. "Наколькі правамоцна права сілы як такое?" (А. Фядута, "Белорусская деловая газета").

Пакідаючы за дужкамі маральную адзнаку дзеянняў NATO, неабходна заўважыць, што ва ўсе часы міжнароднае права было юрыдычным замацаваннем таго, якія склаліся на той ці іншы гістарычны перыяд суадносіны сіл між дзяржавамі. ААН з яго галоўным органам – Радай Бяспекі –была створана пераможцамі ў другой сусветнай вайне такім чынам, каб забяспечыць ім кантроль над сусветнымі працэсамі. Уводзячы інстытут сталых членаў Рады Бяспекі з большымі паўнамоцтвамі, Статут ААН замацоўваў права сільных дзяржаў усталёўваць сусветны парадак на сваё гледзішча. Прычым, як адзначана вышэй, вялікія дзяржавы не асабліва лічыліся з міжнароднымі законамі. Фактар сілы з`яўляецца ключавым элементам функцыянавання сістэмы міжнародных адносін. Так было заўсёды, так ёсць, і няма ніякіх падстаў меркаваць, што так не будзе і далей. Прычым у апошнія гады ў паняцці "сіла" хутка ўзрастае ўдзельная вага яе эканамічнай складаючай.

Пасля развалу савецкага блока Захад па праву моцнага будуе новы сусветны парадак па ўласным стандартам. І міжнароднае права, і ААН з усімі яе структурамі ўжо не адпавядаюць новым суадносінам сіл. З гэтай нагоды можна колькі заўгодна абурацца, заклікаць да абстрактных паняццяў справядлівасці, "правамоцнасці". Але існуючае становішча немагчыма змяніць, не валодаючы адэкватнай контрсілай. Калі ж размахваць рукамі, надуваць шчокі і пры гэтым клянчыць крэдыты ў МВФ, каб пазбегнуць пагрозы голада, то нічога, акрамя лёгкай іроніі і ветлівага спачування, гэта выклікаць не можа.

**Міф чацвёрты.** Распачаўшы абстрэл Югаславіі, NATO развязала вайну ў Еўропе. Сербія – нявінная ахвяра заходняй агрэсіі (Беларускае тэлебачанне).

Вайна на Балканах ідзе з пачатка 90-х гг.. Сербія вядзе бясконцыя войны з іншымі народамі былой Югаславіі. Сербы ваявалі са Славеніей, Харватыей, Босніей і Герцэгавінай. Зараз вядзе вайну ў Косаве. Вельмі верагодна, што на чарзе Чарнагорыя. Імкненне сербаў – самай большай па колькасці нацыі Югаславіі -- сілай утрымаць ад развалу шматнацыянальную дзяржаву прывялі да перманентнай грамадзянскай вайны. (Вельмі красамоўная ілюстрацыя да пастаянных абвінавачванняў Лукашэнкі ў адрас палітыкаў, якія не змаглі прадухіліць развал "вялікай дзяржавы").

**Міф пяты.** Акцыя NATO ёсць умяшальніцтва ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы, што супярэчыць міжнароднаму праву (Беларускае ТБ).

З пазіцый міжнароднага права грубае парушэнне правоў чалавека, вайна з нацменшасцямі, або "гуманітарная катастрофа", як называюць на Захадзе падзеі ў Косаве, не з`яўляецца толькі ўнутранай справай Югаславіі. Тым больш што асколкі ад баявых дзеянняў у Косаве (у выглядзе бежанцаў) разлятаюцца па ўсёй Еўропе.

**Міф шосты.** Дзеянні NATO ў Югаславіі асуджае ўвесь свет (Беларускае ТБ).

Гэта, мягка кажучы, не зусім так. З 15 членаў Рады Бяспекі ААН рэзалюцыю з асуджэннем Паўночнаатлантычнага альянсу падтрымалі толькі тры краіны. Дзеянні NATO асцярожна падтрымаў Генеральны сакратар ААН Кофі Аннан. У абарону мусульман-албанцаў, а значыць ў падтрымку дзеянняў Захада, выступіў ісламскі свет. Але менавіта з гэтымі дзяржавамі (Іранам, арабскімі краінамі) Беларусь у апошні час спрабуе ўсталяваць цесныя эканамічныя і палітычныя стасункі і нават супольна супрацьстаяць Захаду.

Зусім іншая справа – пытанне аб палітычнай мэтазгоднасці дзеянняў, прадпрынятых цяпер Захадам. Наколькі адпавядаюць прымененыя метады пастаўленым мэтам? Вось тут стратэгія NATO вельмі нетрывалая. Саманадзейнасць сілы -- дастаткова распаўсюджаны палітычны недахоп. Згадаем хаця б вайну Расіі ў Чачні.

Ці спынілі натаўскія бамбёжкі вайну ў Косаве? Ці абаранілі яны косаўскіх албанцаў ад этнічных чыстак з боку сербскай арміі, дзеля чаго, уласна, і была прадпрынята сілавая акцыя Захада? Як раз наадварот. Паветраныя абстрэлы Югаславіі паслужылі спускавым курком для ўзмацнення баявых дзеянняў. Паколькі цяпер сербам няма чаго губляць, то этнічныя чысткі набылі характар масавага гвалтоўнага высялення ўсяго албанскага насельніцтва з поўдня Косава. Ужо каля 100 тысяч бежанцаў пакінулі тэрыторыю аўтаномнага края. Тая самая "гуманітарная катастрофа", якую імкнуліся спыніць, набыла непамерна большы маштаб.

Вайна ў Югаславіі абвострыла адносіны паміж Захадам і Расіей, узмацніла антызаходнія настроі, пазіцыі левых, імперскіх сіл у постсавецкіх краінах з усімі адсюль адмоўнымі наступствамі для іх трансфармацыі.

У Расіі пачаўся сапраўдны псіхоз. Магчыма, упершыню ў постсавецкай Расіі пазіцыі ўсіх палітычных сіл і ўсяго насельніцтва краіны па пытанню аб адносінах да натаўскай акцыі ў Югаславіі ў асноўным супалі. Спрацаваў імперскі сіндром.

Нічога дзіўнага, што гэты сіндром паразіў і Беларусь – як асколак імперыі. Ужо адзначалася, што большасць насельніцтва Беларусі псіхалагічна як быццам працягваюць жыць у Савецкім Саюзе. Менталітэт беларусаў – гэта менталітэт грамадзян вялікай дзяржавы. Насельніцтва з разуменнем успрымае ідэалагічную і дыпламатычную вайну, абвешчаную Лукашэнкам Захаду.

Ствараецца ўражанне, што для ідэалагічнага штаба прэзідэнта абстрэл Югаславіі – проста доўгачаканы і ўратавальны падарунак. Для масавай свядомасці дзеянні NATO падцвярджаюць ідэю-фікс Лукашэнкі аб Захадзе як спрадвечным ворагу, якую нясе Беларусі пашырэнне Паўночнаатлантычнага альянса на Усход.

Лукашэнка абазваў натаўцаў "агрэсарамі", "жандармамі", "фашыстамі". Але калі пад час папярэдняга югаслаўскага крызіса некалькі месяцаў назад наш прэзідэнт паабяцаў недкладную ваенную дапамогу Белграду, то цяпер кіраўніцтва РБ абмежавалася толькі палітычнай падтрымкай.

У дзеяннях Лукашэнкі з`явілася новая тактыка. Падобна, ён імкнецца ўдыхнуць жыццё ў паміраючае СНД з дапамогай новай жыццятворнай ідэі: інтэграцыя постсавецкіх дзяржаў на антызаходняй аснове. Прычым, як звычайна, наш прэзідэнт, напэўна, будзе імкнуцца дзейнічаць, апеліруючы прама да народаў, цераз галаву палітычнага кіраўніцтва краін Садружнасці. Ён ініцыяваў унясенне ў павестку дня саміта СНД пытанне ад адносінах да акцыі NATO ў Югаславіі. "Мы павінны ведаць, хто ёсць хто -- асабліва ў СНД",– пагрозліва заявіў Лукашэнка.

Цікавые метамарфозы адбываюцца з нашым прэзідэнтам ў адносінах да ядзернай зброі. Усім памятна яго заява пад час папярэдняга візіта ў Маскву (потым, праўда, няўклюдна абвергнутую) аб магчымасці вяртання на тэрыторыю РБ ядзернай зброі.

Зараз пасля пачатка натаўскай акцыі ў Югаславіі і заяў кіраўнікоў ваеннага ведамства Расіі, уключаючы міністра абароны І. Сяргеева, аб магчымасці размяшчэння на Беларусі тактычнай ядзернай зброі як адным з варыянтаў адказа на дзеянні Захада, беларускае кіраўніцтва павяло сябе дзіўна. Спачатку намеснік сакратара Рады бяспекі РБ квола падцвердзіў гатоўнасць прыняць у сябе расійскую зброю. Затым МЗС дэзавуіраваў гэту заяву, падкрэсліўшы вернасць Беларусі падпісаным міжнародным дамовам. Услед за гэтым і сам Лукашэнка пад час паездкі па затопленым раёнам заўважыў, што версіі аб магчымасці вяртання ў краіну ядзернай зброі -- гэта выдумкі недобрасумленных журналістаў.

Такіе крутыя віражы ў пазіцыі па важнейшай геапалітычнай праблеме для Лукашэнкі вельмі натуральныя. У дзейнасці палітыкаў такога тыпу прапагандысцкі бок заўсёды прэваліруе. Яго заява аб вяртанні ядзернай зброі было арыянтавана на расійскі электарат і было прызвана паказаць прыхільнікам адраджэння імперыі, што прэзідэнт РБ – самы "круты" палітык. З другога боку, гэта быў ядзерны шантаж Захада, спроба такім чынам выгандляваць у яго нейкія саступкі.

Калі ж вяртанне ядзернай зброі набыло акрэсленасць нейкай рэальнасці, тут Лукашэнка даў задні ход. Наш прэзідэнт – ігрок азартны, але да пэўнай мяжы. Ён вельмі дакладна адчувае тую рысу, якую пераступіць небяспечна.

Няма сумневу, акцыя NATO ў Югаславіі ўзмацніла палітычны рэжым Лукашэнкі і аслабіла становішча апазіцыі. Ва ўмовах надзвычайнасці умацоўваецца любы дыктатарскі рэжым. Мадэль абложанай крэпасці становіцца эфектыўнай пры наяўнасці знешняга ворага. Цяпер такі вораг набыў у вачах электарата рысы праўдападобнасці.

Насельніцтву настойліва ўнушаецца думка, што існуе рэальная пагроза ваеннай акцыі NATO супраць РБ. Усім вядома негатыўныя адносіны Захаду да палітычнага рэжыму Беларусі. Палітычныя дэмаршы заходніх краін, абмежаванне эканамічнага супрацоўніцтва, магчымыя санкцыі лёгка прадставіць як прэлюдыю для сілавых дзеянняў.

Асабліва адчувальна цяпер становішча апазіцыі. Усім вядома яе цесная матэрыяльная і ідэйная сувязь з Захадам. Яна арыентавана на інтэграцыю з заходнімі эканамічнымі і палітычнымі структурамі. Зараз, калі Захад прадстаў у вачах насельніцтва як агрэсар, гвалтоўнік і наогул носбіт усіх магчымых адмоўных якасцяў, гэтая пячатка аўтаматычна ляжа і на апазіцыю. І яе апеляцыя да Захаду ўмела трактуюцца афіцыйнай прапагандай як заклік да сілавой акцыі супраць Беларусі.

# Лёс Беларусі залежыць ад твайго выбара 16 траўня 1999 года.

Ёсць такое слова -- Канстытуцыя -- асноўны Закон жыцця краіны. Ёсць такі Закон і ў Рэспубліцы Беларусь. Дык вось там чорным па беламу напісана, што прэзідэнт краіны выбіраецца на пяць гадоў. Выбіралі яго ў траўні 1994 года. Значыць у траўні 1999 года павінны адбыцца новыя прэзідэнцкія выбары. Ніхто не мае права парушыць Канстытуцыю, а прэзідэнт павінен быць яе гарантам. Аднак Аляксандр Рыгоравіч сцвярджае, што прэзідэнцкія выбары павінны адбыцца ў 2001 годзе. У некага тут тугавата з матэматыкай, але на Беларусі жыве 10 мільёнаў насельніцтва і скласці 1994 з 5 можа нават першакласнік і атрымаць 1999, не кажучы аб людзях, якія скончылі дзесяцігодку, ПТВ ці ВНУ.

Пасля 21 ліпеня 1999 года на Беларусі павінен быць новы прэзідэнт, альбо папярэдні, калі пойдзе на выбары і выйграе іх. А ісці на іх не хочацца, бо можа не ўдасца спадмануць народ і той не акажа даверу на другі тэрмін. Што тады? Страх! Трэба будзе адказваць за пралікі ў эканоміцы, за галечу народа, за інфляцыю, за цэны, за свае нявыкананыя перадвыбарныя абяцанкі.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 13 склікання, прызнаны ўсім светам (акрамя хіба Расіі), як законны заканадаўчы орган Беларусі абвясціў 16 траўня 1999 года прэзідэнцкія выбары.

Ёсць вялікія шанцы, што выбары адбудуцца: расце незадаволенасць народа, вертыкалі, старшыняў калгасаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, бізнесменаў...

Народ жадае перамен да лепшага. Выбар Беларусі залежыць ад твайго выбару 16 траўня 1999 года.

На Беларусі ўжо сфарміраваны абласныя, раённыя і гарадскія камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Нехта можа сказаць, што выбары не адбудуцца, ўлада не дазволіць іх правесці. Такі варыянт магчымы. Аднак тады цяперашні прэзідэнт пасля 21 ліпеня становіцца незаконным і старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі становіцца аўтаматычна выконваючым абавязкі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Так патрабуе Канстытуцыя.

Ёсць магчымы сцэнарый (іх некалькі) правядзення прэзідэнцкіх выбараў, напрыклад, баснійскі. Справа ў тым, што ў Босніі ў свой час пры арганізацыі выбараў выкарыстоўваліся спецыяльныя машыны АБСЕ. Гэтыя машыны насычаны электронікай, і галасаванне ажыццяўляецца па прынцыпу адбіткаў пальцаў. Гэта значыць выбаршчык галасуе сваім пальцам. А паколькі вядома, што адбіткі пальцаў ў людзей не супадаюць, апаратура дае магчымасць бесперашкодна прагаласаваць кожнаму. Больш таго, тэхніка тут такога высокага класа, што не дазваляе ўжо прагаласаваўшаму зрабіць гэта двойчы, г.зн. адзін і той жа чалавек не зможа галасаваць больш аднаго разу.

Калі АБСЕ выдзеліць такую тэхніку для Беларусі, то на працягу дзесяці дзён, а Закон аб выбарах прэзідэнта дазваляе датэрміновае галасаванне, гэтыя машыны лёгка праедуць па ўсёй тэрыторыі Беларусі, і выбаршчыкі, не баючыся ніякіх кар з боку ўладаў, выкажуць сваю думку наконт выбараў. Натуральна, што ў гэтай сітуацыі роля выбарчых камісій адыходзіць на задні план, а галоўнымі ў кампаніі становяцца сродкі масавай інфармацыі.

*Я. Абадоўскі*

УСПАМІНЫ АБ БУДУЧЫНІ

# Вяртанне Корсака

Мая знаёмая любіць піва і шампанскае. Але сказала мне гэта па-сакрэту. Калі з шампанскім ўсё зразумела: у прыстойнай кампаніі ад яго ніхто не адмаўляецца, то з півам існуюць пэўныя "комплексы". Зазвычай у нас лічыцца, што яго спажываюць "алкашы" на пахмелле і ў піўбар "інтэлегентны" чалавек не пойдзе. Між тым "уся Еўропа" спажывае піва цэлымі сем`ямі пад парасонамі на фоне сярэднявечных вуліц, палацаў і замкаў. Пекныя дзяўчаты-афіцыянткі ў камізэльках і кароткіх спадніцах завіхаюцца між столікаў з куфлямі пеннага піва. Назіраў тое ў Варшаве на Старым Мясце і ў іншых польскіх ды чэшскіх гарадах. Няма ніякіх " комплексаў" -- вакол інтэлігентна апранутая публіка, моладзь, кабеты з цыгарэтамі...

Чаму такая непавага да піва ў нас? Найперш -- якасць яго жадае лепшага, па-другое – сама культура спажывання гэтага напою ў антысанітарнай абстаноўцы адпугне любога аматара. Ні раз назіраў, як кабета-прадавец ля піўной бочкі спаласквае куфлі ў вядры з вадой -- штораз пасля кожнага наведвальніка. Кансервныя слоікі -- заміж піўных куфляў. Карціна красамоўная. Хто ахвотны падхаціць Боткіна (жаўтуху), дызентэрыю ці яшчэ нейкую заразу?!




Якасць глыбоцкага піва заўсёды сустракала папрокі сапраўдных аматараў гэтага напою. Праўда, аднойчы, барменша, на мае кпіны закінула -- "уся Масква упіваецца глыбоцкім півам і кажа, што лепшага ў свеце няма".

Між тым у лютым г.г. давялося мне ехаць з адной дэлегацыяй з Браслава ў Мінск. Былі ў ёй не толькі беларусы з Гродна, Магілёва і Мінска, але і госці з Варшавы, Бірмінгема і Парыжа. У краме закупілі піва -- дарога ж доўгая. Піва аказалася глыбоцкае. Публіка, зрабіўшы пару глыткоў, закруціла насамі. Перадай, Мікола, у сваё Глыбокае,-- кажа Мерылін з Парыжа праз перакладчыка,-- ваду для піва трэба браць не з балота!

Не падабаецца табе глыбоцкае піва,-- скажа апанент,-- пі мінскае, ці лідскае! Я рад бы, але наўрад ужо гэта давядзецца, ва ўсякім разе на тэрыторыі Віцебскай вобласці.

Заходжу ў Полацку ў прыватную краму. Ля паліцы дзве вельмі самавітыя жанчыны робяць у журнале нейкія адзнакі,а прадавец называе назву гарэлкі і месца вырабу. Як аказалася --у большасці гродзенская. Я і не ведаў колькі назваў гарэлкі вырабляецца па-за межамі Віцебшчыны: "Полька", "Стары Замак", "Юбілейная"... Кантралёры тлумачаць прадаўшчыцы, што "есть постановление, по которому на территории Витебской области должны продаваться вино, водка и пиво, произведенные в Витебской области". Дык што,-- не ўстрымаўся я,-- цяпер мы павінны душыцца глыбоцкім півам! Пейте полоцкое,-- кажа адна з кантралёрак,-- а мы будем платить зарплату врачам и учителям. Застануцца вашы ўрачы і настаўнікі без заробку, калі ўсе накінуцца на глыбоцкае піва,-- падсумаваў я напрыканцы.

Аднойчы сябра пажартаваў: "Калі прыйдуць **нашы**, першае што зменім: гэта -- якасць глыбоцкага піва. Закупім у немцаў, чэхаў ці палякаў добрую тэхналогію і будзем выпрацоўваць піва, якое заторкне за пас славутае лідскае, бо ўсё, што глыбоцкае, павінна быць самым лепшым у краіне.

Не дзеля жарта, можна і цяпер "вынайсці" назоў самага папулярнага ў будучыні глыбоцкага піва. І гэты цэтлік мы прэзентуем Глыбоцкаму піўзаводу ў якасці сувеніра.

*М. Самавіты*



Міты, казкі, плёткі,
Легенды і вершы
Па жывых ня плачуць --
Хваляць мерцьвякоў
Не журыся, братка:
Твой народ ня першы
Сярод пахаваных
Пад хлусьнёй вякоў.

Аляксандр Айнэ

## АНОНС

**У траўні месяцы бягучага года ў Глыбокім запланавана фотавыстава беларускага і польскага этнографа і фальклярыста, майстра мастацкай краязнаўчай фатаграфіі Яна Булгака (1876 -1950). Мяркуецца, што мерапрыемства адбудзецца ў выставачнай зале кінатэатра "Радзіма". Арганізатары выставы -- Галерэя візуальных мастацтваў "NOVA" Цэнтральнай бібліятэкі імя Янкі Купалы, IP Instytut Polski пры непасрэдным удзеле Польскай амбасады. Сачыце за аб`явамі і афішамі.**

# ЯН БУЛГАК

## з выставай у Глыбокім

**Ян Булгак** нарадзіўся 6.10.1876 г. у вёсцы Асташына, цяпер Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці, памёр 4.2.1950 г. Да 1912 г. жыў у вёсцы Перасека Мінскага павета. У 1919 - 39 гг. кіраваў лабараторыяй мастацкай фатаграфіі пры Віленскім Універсітэце. Заснавальнік і старшыня Фотаклуба Польшчы, Віленскага Фотаклуба, Саюза Польскіх Фотамастакоў, Польскага Фатаграфічнага Таварыства.

Апублікаваў у розных этнаграфічных выданнях і часопісах шмат здымкаў беларускіх краявідаў, вёсак і пабудоў, беларускіх сялян.

У этнаграфічным выданні "Мая зямля" (Вільня, 1919) прадстаўлены здымак "Беразвечча". Выява гэтага здымка была выкарыстана для паштоўкі, якая была выдадзена падчас нямецкай акупацыі Беларусі. Яе ілюстрацыя змешчана ў кнізе "Глыбокае на старых паштоўках" (Менск-Глыбокае, БГАКЦ, 1998).

Ян Булгак -- аўтар найбольш вядомых здымкаў этнагафічнага характару: "Беларуская дзяўчына з-пад Клецку", "Бабулька-беларуска з маёнтку Перасека пад Менскам", "Беларуская дзяўчына з-пад Клецка ў народным строі з самаробнага сукна". Аўтар краязнаўчых артыкулаў "Экскурсія на Свіцязь" (1910), "Велікодныя песні на Меншчыне (валачобнікі)" (1911), прац пра мастака Фердынанда Рушчыца (у кнізе: "Фердынанд Рушчыц", Вільня, 1939), даследванняў і падручнікаў па тэхніцы фатаграфіі.

Ян Булгак з`яўляецца аўтарам шматлікіх фотаздымкаў архітэктурных помнікаў Глыбокага і Беразвечча. З ягоных негатываў рабіліся шмат якія адбіткі для глыбоцкіх і беразвецкіх паштовак. У гэтым можна лёгка пераканацца, калі разгорніце кнігу "Глыбокае на старых паштоўках".

На вялікі жаль, архіў Яна Булгака, якога называлі "Нестарам польскай фатаграфіі", загінуў у Вільні пад час Другой Сусветнай Вайны ў 1944 г. (фототэка каля 10 тыс. адзінак). Многія яго фатаграфіі з беларускіх земляў зберагаюцца ў Дзяржаўным Гістарычным Архіве Літвы і Цэнтральнай Бібліятэцы АН Літвы ў Вільні, а таксама ў Інстытуце Мастацтва Польскай Акадэміі Навук у Варшаве.

*Ул. Скрабатун*

## Дарэчы

"ГЛЫБОКАЕ *на старых паштоўках*" заняла 2-е месца на Краёвай выставе кніг. Наклад кнігі цалкам рэалізаваны і яе ўжо няма ў продажы. Ёсць меркаванне, зыходзячы з таго, што попыт на кнігу быў значна большы, чым яе наклад, трэба аддрукаваць паўторны наклад, каб задаволіць патрэбы аматараў даўніны. Гэта цалкам рэальна і ёсць дамова з друкарняй. Ранейшы сабекошт кнігі быў 3$. Паўторны наклад будзе таннейшы, таму што сюды не будзе ўваходзіць набор кнігі. Кошт можа быць каля 2$ па курсу беларускага рубля.

Ахвотныя мець **"ГЛЫБОКАЕ** *на старых паштоўках*" могуць замовіць кнігу пад час выставы работ Яна Булгага ў Глыбокім.

*М. Шпак*



## Помнік глыбоцкім падпольшчыкам.

Амаль кожны год у Глыбокім паўстае новы гістарычны помнік. І гэта, не дзіўна: наш слаўны горад мае не толькі выдатныя помнікі архітэктуры, але і багатую гісторыю.

Аднойчы я дзяліўся ўражаннямі аб гэтым, яшчэ толькі узведзеным помніку, з вядомым краязнаўцам Алегам Тарыкавым. Ён заўважыў, што "яўрэі з усяго свету адраджаюць у Глыбокім сваю гістарычную памяць і хутка Глыбокае можа стацца ледзь не "другім Ерусалімам", павінна ж быць у нас і нешта беларускае!"

*Фота Ул. Скрабатуна*

## ДА 585-х УГОДКАЎ ГЛЫБОКАГА

# Дамінік Радзівіл

**Апошнім уласнікам паўднёвай часткі Глыбокага з роду Радзівілаў быў князь Дамінік, ардынат нясвіжскі.** Выхаваны ў духу культа да князя Пепі, спрабаваў яго наследваць не толькі ў часе войнаў, але і ў перыяд спакою. У 1807 годзе свет польскай арыстакратыі жыў пад уражаннем скандалу, якога дапусціўся князь Дамінік. Прыбыўшы на шлюб сваёй блізкай кузінкі панны Мараўскай з нейкім графам Стажэньскім, закахаўся ў маладую панну і з яе згоды павёў наўпрост да алтара. Потым выехалі ў Аўстрыю да Граза. Там нарадзіўся ў іх сын Аляксандр, а пазней дачка Стэфанія. Князь Дамінік у 1811 годзе, у 26-цігадовым узросце за свае грошы выставіў полк уланаў, каб ваяваць на баку Напалеона Банапарта. Праславіўся як адзін з найадважных палякаў, без рэшты адданых імператару. Далейшы лёс падцвердзіў гэтае меркаванне. Калі Напалеон пачаў прайграваць сваю ваенную кампанію, малады Радзівіл, падобна як князі Пепі, не здрадзілі яму. Дамінік Радзівіл загінуў па-геройску пад Ханау у 1813 годзе.

Вялікія радзівілаўскія ўладанні меліся перайсці ў рукі дачкі Стэфаніі. Аднак так не адбылося. Расійскія ўлады аддалі нясвіжскую ардынацыю ў рукі прускай лініі Радзівілаў. Пасля доўгага працэсу Стэфаніі ўдалося ўтрымаць ва ўладанні ўласна Глыбокае. Стэфанія выйшла замуж за князя Віттгенштэйна, пазнейшага ад`ютанта цара Мікалая І. Хутка пасля шлюбу -- маладая яшчэ -- дачка Дамініка Радзівіла памерла, а ўдавец па апошняй спадчыннай фартуне ажаніўся паўторна з пекнай князёўнай Леанільдай Баратынскай, якую звалі звычайна Сільфідай.

*Л. Беразоўскі*

## КОНКУРС

# ЧАЛАВЕК - ЧАС - ПОМНІК

Арганізатары Конкурсу:
Рэгіянальная асацыяцыя выкладчыкаў гісторыі і грамадскіх дысцыплін "ДОБА" (Львоў), Архіў Найноўшай Гісторыі, Беларускі Гуманітарны Фонд "Наша Ніва" (Мінск) пры падтрымцы Міжнароднага фонду "Відроджэння" (Кіеў)

**Старшакласнікі (8 - 11 кл. і навучэнцы сярэдніх навучальных установ) Украіны і Беларусі запрашаюцца да ўдзелу ў дыскусіі на тэму "Чалавек - Час - Помнік ". Прапануецца даслаць свае пісьмовыя працы-роздумы на такія тэмы (на выбар):**

**1.** Помнік -- гэта праява грамадскай волі, калі толькі ён не навязаны таталітарным рэжымам. Ці павінны мы гэтыя сведчанні мінулага разглядаць толькі пад палітычным пунктам гледжання?

**2.** Наколькі правільным ёсць сцвярджэнне пра тое, што помнікі "не падманваюць", "не маўчаць"? У такім разе, ці дапамагаюць яны лепей зразумець гісторыю?

**3.** Падчас бітваў, асабліва XX ст., шмат нашых суайчыннікаў ваявала ў складзе розных, часам варожых, сіл. Як мы цяпер павінны ставіцца да помнікаў, пастаўленых у іх гонар?

**4.** Сёння існуе яшчэ шмат помнікаў, якія сімвалізуюць аджылыя палітычныя ідэі. Ці мусім мы іх знішчаць, пакідаць недатыкальнымі ці пераносіць ў іншае месца?

**5.** Ці дапамагаюць нам сёння помнікі не забываць мінулае? Магчыма, мы павінны шукаць іншыя формы захавання духу мінулых часоў?

**6.** Якія помнікі патрэбны нашаму грамадству сёння?

**Вашы даследванні павінны:**

- мець аб`ём да 8 старонак друкаванага, ці 12 старонак рукапіснага тэксту;
- абапірацца на мясцовы матэрыял;
- выяўляць асабістае стаўленне да грамадскіх з`яў і працэсаў;
- можна прыкладаць здымкі, малюнкі, цікавыя дакументы, ці іх ксеракопіі.

Удзельнікам конкурсу трэба **дадаткова,** на асобным аркушы, падаць звесткі пра сябе: імя, прозвішча, год нараджэння, месца навучання, хатні адрас (абавязкова з паштовым індэксам), тэлефон, а таксама пра свайго кансультанта (калі ён маецца): імя, прозвішча, хатні адрас, тэлефон.

Па выніках Конкурсу аўтары 25 самых цікавых прац з беларускага і 25 з украінскага боку:

- пабачаць свае працы апублікаванымі;
- будуць запрошанымі да ўдзелу ў міжнароднай моладзевай канферэнцыі "Чалавек - Час - Помнік", якая адбудзецца ў кастрычніку 1999 года ў Львове;
- стануць удзельнікамі разнастайнай культурнай праграмы;
- атрымаюць каштоўныя падарункі;
- атрымаюць магчымасць у будучыні узяць удзел у іншых міжнародных праектах.

**Што яшчэ важнае:**

- вынікі Конкурсу будуць вядомыя ў верасні 1999 года;
- дасланыя на Конкурс матэрыялы не вяртаюцца;
- да ўдзелу ў Конкурсе запрашаюцца аўтары з разнастайнымі палітычнымі і грамадскімі поглядамі.

**Просім даслаць Вашы працы да 30 чэрвеня 1999 года на адрас:**
***а/с 71, г. Мінск, 220123 (з пазнакаю "Конкурс "Слядамі гісторыі"), даведкі па тэл. 229-55-69 (Ірына Коваль)***

*Жадаем поспехаў!*



# Дуброва, Копцеўка, Стары Пагост...

Не так даўно мне давялося чуць аповяд аднаго з жыхароў Глыбокага. Ён сцвярджаў, што капаючы магілу на цвінтары Копцеўка, на досыць значнай глыбіні, знайшоў старажытную манету з выявай "Пагоні". Вельмі шкадаваў, што паклаўшы яе ў кішэню, потым, незнарок, згубіў.

Не ўстрымаўся ад пытання, якое мяне часта азадачвала: "Цвінтар Копцеўка і цвінтар каля аўтастанцыі -- даволі "маладыя". Мяркуючы па датах пахаванняў на надмагільных помніках -- не раней паловы XIX ст. Але пісанай гісторыі Глыбокага -585 гадоў. Недзе ж хавалі нябожчыкаў усе гэтыя стагоддзі?"

Як ні дзіўна, для карэнных,у некалькіх пакаленнях, жыхароў Глыбокага такога пытання няма. -- Раён Капітанскай горкі і "чырвонай школы" на Мінскай вуліцы некалі ў мінуўшчыне зваўся Стары Пагост,-- патлумачыў апавядальнік,-- тут і былі старажытныя глыбоцкія могілкі. Цяпер, здараецца, капаючы траншэю пад падмурак, кабель, ці для якіх іншых патрэб, трапляюцца шматлікія чалавечыя косткі і чарапы.

А вось цвінтар каля аўтастанцыі таксама мае свой назоў -- Дуброва. Даўней казалі: "Пахавалі на Дуброве".

Між тым выклікае цікавасць факт знаходкі у нетрах Копцеўскага пагорка старажытнай манеты з выявай "Пагоні".

Разгадка паходжання назвы гэтага пагорка згубілася ў глыбіні стагоддзяў. Можа яна паходзіць ад слова "капішча", дзе было ў старажытнасці культавае месца паганцаў. Ці ад слова "капец" -- старажытнае абарончае збудаванне.

Копцеўка некалі дамінавала на адлеглых абшарах і магла мець стратэгічнае, а таксама культавае значэнне.

Зрэшты, "копша" ў беларускай міфалогіі -- магільны дух.

*Ул. Скрабатун*



# сямейная старонка

**Гэта старонка падрыхтавана па пісьмах нашых чытачоў. Чытачы і чытачкі дзяліліся самым патаемным: радасцю і смуткам, шчасцем і расчараваннем. Спадзяёмся, змешчаныя гісторыі навучаць нечаму і Вас, паважаныя чытачы, і, магчыма, прымусяць узяцца за пяро, каб напісаць нам пра сябе і сваё жыццё. Чакаем Вашых пісем і цікавых расповедаў.**

## Старайцеся, каб дзеці адчулі душэўны камфорт

**Ужо шаснаццаты год я - маці.** Самой не верыцца. Клапачуся, каб дзеці былі накормленыя, напоеныя, апранутыя. Але галоўнае, пра што баліць галава, каб дзеці адчувалі сябе ў сям`і камфортна: душэўна цёпла і спакойна. Стараюся ўдзяліць ім больш часу: чытаем разам, пытаюся іх думку, слухаю, даю магчымасць выказацца. Глядзім фільм і ў канцы заўсёды пытаюся, што асабліва спадабалася, запомнілася, чаму фільм навучыў. Мы разам малюем, вучым вершы, чытаем смешнае. Дзеці ніколі не імкнуліся на вёску да бабулі. І не таму, што там дрэнна, а таму, што дома лепей за ўсё. Я ганаруся гэтым і ўсё ж непакоюся: а што рабіць, калі прыйдзе першы, другі ці трэці этап падлеткавага ўзросту? Газеты пішуць, што гэта складаны час і здараецца ўсялякае: дзеці не могуць знайсці паразумення з бацькамі, уцякаюць з дому, звязваюцца з кампаніямі... Страшна. Дзякуй Богу да шаснаццаці са старэйшым падобных праблем не было. А адзін мой знаёмы, які скончыў два замежныя ВУЗы, кажа, што гэта ўсё выдумкі псіхолагаў. Усё залежыць ад мікраклімату ў сям`і і асабіста ад кожнага, ад выхавання і духоўнага складу бацькоў і дзяцей. Відаць, гэта праўда.

Нядаўна старэйшы сын адказваў на пытанні зададзеныя на ўроку.

-Якой бы вы хацелі бачыць спадарожніцу жыцця?

-Якімі рысамі характару павінна яна валодаць?

Пытанні складаныя, жыццёвыя і патрабавалі грунтоўнага адказу. Старэйшы сын даў такі адказ: "Я б вельмі хацеў, каб мая спадарожніца была добрая, разумная, сціплая, з пачуццём гумару і аптымістка".

Я запытала, чаму менавіта гэтыя якасці ён выдзеліў. Сын усміхнуўся і адказаў: "Гэта ўсё - ты. Я спісаў усё з цябе і шукаць сяброўку буду такую ж, як ты. Прыемна і... вельмі адказна. А яшчэ я ўпэўнена, што іду па правільнаму шляху выхавання.

**Многія бацькі скардзяцца, што дзеці - гэта адны праблемы.** Так. Дзесяткі разоў так, але ж пакуль мы вырашаем праблемы, мы жывём. І калі навучыцца іх вырашаць разам, у сям`і будзе светла, цёпла і ўтульна. Душэўны камфорт і спакой сёння, бадай, самае галоўнае для кожнага з нас, як для дарослага, так і для дзіцяці

**Марына К.**
***г.Глыбокае***

## "Шкада, што казачныя словы мы хочам зберагчы на потым..."

**Жыццё наша такое імклівае,** струйнае, што спыніцца некалі, пасядзець з любым, аблашчыць яго добрым словам. Усё подбегам, усё на хаду, усё адны наказы: ідзі туды, зрабі тое, бо адна не паспяваю. А калі выдасца хвілінка вольная, язык нібы прыліпае да нёба: няма слоў, куды дзяюцца яны пяшчотныя і ласкавыя? Закамплексаваныя мы жанчыны, затурканыя бытам, забітыя паўся-дзённым клопатам. Саро-мемся мы кахання і не можам датыкнуцца да прыгожага. Калі толькі ўпотай, у марах, адзін на адзін з сабой.

**Так здарылася, што замуж я выйшла рана:** толькі-толькі споўнілася васемнаццаць. Выйшла, нібы згодна вясковай прымаўцы: калі бралі, тады і ішла. А на самой справе ўсё было знянацку і па каханню. Здавалася, нічым асаблівым Мікалай не выдзяляўся: і росту не высокага, і спрыту асаб-лівага не было, і гаварыць быў не мастак. А сустрэнем-ся, бывала, перад танцамі і маўчым у зняменні. Я чую, як яго сэрца б`ецца і думкі чытаю: не хоча ён ісці на тыя танцулі, бо там абавязкова паб`юцца ў канцы. І пойдзем з ім да мяне. А дарога ў два кіламетры да маёй вёскі цягнецца, здаецца, на ўсе чатыры. Няхай бы і на дзесяць была - яшчэ лепш. Сядзем на лаўцы і гаворым паціху. Не пра каханне, пра жыццё. Прос-та,задушэўна, як з даўно знаёмым. Аднойчы кажу: "У нас з табой гаспадарка павялася б". А ён мне: "Я таксама так думаю, тады выходзі за мяне". Усё будзённа атрымалася. Канечне, я яго кахала, але ў такі момант хацелася ўзнёсласці і прыгажосці. Нават пакрыўдавала на яго крыху. Вяселле справілі і пачалі жыць. На сяле цяжка жывецца: касіць, садзіць, выбіраць, майстраваць. Усё ўмеў мой Мікалай. Калі чаго не ведаў, ішоў да ста-рэйшых раіцца. За гэта яго ўсе паважалі.

**Што і казаць, у жыцці і сваркі здараліся.** Як цяпер кажуць, на "бытовой почве". Дваццаць гадоў пражылі разам, двое дзетак нажылі і аднойчы раптоўна, мой Мікола памёр. Да апошняга нічога не гаварыў, не жаліўся. Мяне не хацеў тры-вожыць. Памёр гадоў дзе-сяць таму, а я дагэтуль з ім размаўляю і раюся. Дзеці пажаніліся, па свеце раз-ляцеліся, адна днюю і начую. І з Міколам гавару і ўяўляю, што ён са мной. На пенсіі часу ёсць, бо жыву ўжо каторы год у райцэнтры. Пачала чытаць. Вельмі люблю задушэўныя словы пра каханне. Бяру кнігу і кажу: "Гэта для цябе, Міколка, я чытаю. Гэтыя словы ўсе - табе аднаму". І плачу. Чаму пры жыцці ні я яму, ні ён мне такіх слоўцаў не сказаў. Паслухайце мяне, старую: няхай ён той быт будзе цяжкі, але ж душа ніколі не старэе. Маладзіце яе любоўю, спагадай, шчырасцю, ласкавымі і прыемнымі словамі. Я нядаўна ў нейкай кніжцы верш прачытала. Так спадабаўся, ажно перапісала і дасылаю Вам.

*Увагай шчырай,*
*Пацалункамі*
*Не надакучыш любай -*
*І вочы адтаюць, як лункі,*
*І сонечна смяюцца губы.*

*Уся яна, як сад маёвы,*
*Напоўніцца святлом пяшчоты...*

**Шкада, што казачныя словы**
**Мы хочам зберагчы на потым.**

Не пакідайце на потым добрае і светлае. Дарыце адзін аднаму ласку і кветкі, сонца і святло сваёй душы. Дарыце сёння, каб не было позна.

**Аліна Філіпаўна**
**Казлоўская**

## Не прашу дапамогі, а хачу выказацца.

**Мая жонка прастытутка. Гэта калі па-газетнаму. Калі па-вясковаму: гулёна.**

Зараз на вёску едуць усялякія людзі: з Расіі, з чарнобыльскіх раёнаў, выпівохі з райцэнтра, разводныя вяртаюцца да прэстарэлых бацькоў. Адным словам, пры жаданні мая жонка заўсёды знаходзіць кавалера. Выпівае з імі, застаецца нанач, па тыднях не працуе ў калгасе. Не вяртаецца дамоў. Я гляджу за дочкамі, за гаспадаркай, мыю, вару, шыю. Калі вятаецца, прымаю. Нічога не гавару нават, пасля, праз тыдзень-другі, спрабую прысаромець і баюся, каб зноў не сышла. Злосць бярэ часамі, а іншы раз шкада яе. Ёй трыццаць чатыры гады, а выглядае на ўсе сорак пяць. З 17 год як засталася ў калгасе, так дагэтуль і працуе. Чорная, брудная, не па сілах работа. Зарплата мізэрная. І пра сябе забылася, і пра прыгажосць. Каб неяк забыцца на такое жыццё, пачала выпіваць. Вып`е, паплача і зноў, як той конь, упрагаецца. Што я мог зрабіць, што мог ёй прапанаваць? Сам такі ж чорнарабочы, працую за мільён. Таму і маўчу. Гарую я. Гаруе яна. Гаруюць дзеці. Гаруюць дзесяткі сотні, такіх жа, як мы. Здараецца, памарым разам. Аказваецца, мары ў нас аднолькавыя: зажыць як людзі. Адпачываць сям`ёй. Адпачываць культурна, з асалодай. Чытаць, каб час быў. У тэатр схадзіць. У Доме моды адзенне купляць. Аўтамабіль справіць. На прыроду ездзіць. Падарожнічаць па Беларусі. Мары, мары, мары...

Жонкі зноў няма. Дочкі спяць. Прачытаў Вашу газету і не ведаю, чаму рашыў напісаць. Палягчэла.

**Ліст ад Валерыя**
**Глыбоцкі раён**



## гумар для ўсіх

*Маленькая Аленка ледзь не плача:*
*-Засунула ў слоік руку аж **да калена,** а варэнне так і не дастала.*

ООО

*Настаўніца пытае:*
*-Пеця, якога роду бываюць назоўнікі?*
*Пеця ў адказ:*
*-Мужчынскага, жаночага... і дзіцячага.*

ООО

*Дайце мне, калі ласка, самы горшы кавалак мяса, -просіць мужчына ў прадаўца.*
*-Чаму?-дзівіцца той.*
*-Каб жонка болей у магазін не пасылала.*

## КУТОК
**для самых маленькіх**

### НАКАРМІ ХУТЧЭЙ

-Мама мілая, хачу
Ой, хачу я вельмі
Не бліночкаў, не баршчу,
Нават не пельменяў.

Суп на першае са смеху,
Смех замест катлет, рагу
І запіць хачу пацехай
З`есці ўсё, павер, змагу.

Усміхнулася матуля:
-Накармлю, галодны воўк.
Казку з гумарам згатую
Для цябе, ешчы сынок.

**Галіна Сутула**

## НАДВОР`Е Ў ХАЦЕ

**Яна хацела звычайнага жаноцкага шчасця:** Яго рукі абдымаюць яе, іх вусны сплятаюцца ў спякотна-млявым пацалунку, погляд Яго карых вачэй купаецца, патанае ў азёрах Яе блакітных, яна маладзее ад усмешкі. Не жыццё, а рэклама.

На самой справе ўсё было не так. Выходзіла замуж па каханню. Была спраўнай гаспадыняй, спагадлівай нявесткай, цярплівай маці, але не клеілася ў жыцці. Муж выпіваў, а выпіўшага -- не ўтаймаваць: не аднойчы "лашчыў" калісьці жаданае цела кулакамі, лаяўся, пэцкаў брыдкімі словамі. Яны пяклі, нібы агнём. Ей здавалася, што ў чарговы раз не вытрывае, зачыніць дзверы і павесіць замок на няўдалым лёсе. Але ж дзеці... Можа абдумаецца, як у гады ўбярэцца?

Усе прычыны свайго няшчасця шукала, на цеснату наракала, на быт, як цяпер кажуць. Учацвярых у адной каморцы з раніцы да вечара паспрабуй -- станеш, што сабака з ланцуга сарваўшыся. Апраўдвала яго. Верыла ў лепшае.

А тут калгас хату даў. Не новую, праўда, але раскошную: у тры пакоі, з кухняй і кладоўкай.

Узрадаваліся абое. "Загарэліся" рамонтам. З апошняга ўсё падагналі, пафарбавалі, паклеілі. Не хата , а цацка стала! Светла, чыста, утульна. Прастора!

-- У новай хаце зажывём па-новаму,-- марыла Яна,-- усё былое з галавы вон, з сэрца далоў-забуду!

Добра "замачыўшы" пераезд, Ён прыклаў руку да Яе прыгожага твару і абсыпаў брудам брыдкіх і крыўдных слоў...

Намнога лягчэй змяніць у пакоі шпалеры, пафарбаваць падлогу, столь, перакрыць дах, зашкліць вокны, чым "адрамантаваць" чалавечыя адносіны, якія далі калісьці расколіну.

**Галіна СУТУЛА**



# МОЛАДЗЕВАЯ СТАРОНКА

Калонка моладзевай інфармацыі

*Вялікі дзякуй за лісты, якія вы даслалі нам!*

*Як мы зразумелі, моладзь цікавяць незалежныя моладзевыя арганізацыі, і многія б хацелі далучыцца да іхніх шэрагаў.*

*Асабліва глыбоцкую моладзь зацікавіла Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў (ЗБС). У сувязі з гэтым паведамляем, што ў бліжэйшы час у наш горад павінен прыехаць старшыня ЗБС Алесь Міхалевіч. Ён плануе больш падрабязна распавесці ўсім зацікаўленым пра гэтую моладзевую арганізацыю. Сачыце за аб`явамі.*

*Несумнеўна многія маладыя людзі цікавяцца беларускай музыкай. Пакуль, каб набыць касеты "Крамы", NRM альбо "Новага Неба", трэба ехаць у іншыя гарады ці замаўляць запісы па пошце, што каштуе даражэй. У хуткім часе, беларускія касеты і кніжкі можна будзе знайсці і ў Глыбокім. Сачыце за інфармацыяй у **ВГ**.*



# ТРАСЯНКА

**Трасянка. Колькі ў гэтым слове! Бадай што некаторыя аналітыкі і мовазнаўцы ўбачылі ў ёй нейкую новую надзею, выратаванне, тое, што лучыць мову з простым народам, ці народ з мовай. Маўляў, *яны* (plebs) яшчэ не забыліся, не зусім адыйшлі, "амаскаліліся". Хтосьці ўжо выдае нават слоўнік трасянкі.**

## *ЗАМЕЖНЫ ДОСВЕД*

На маю ж думку трасянка - гэта тая велізарная недарэчнасць, якая можа знішчыць беларускую мову. Па-першае, калі прасачыць карані любых трасянак то, яны -- вынік паслядоўнага вынішчэння слабейшай мовы мовай мацнейшай.

Прыклад фанетычнае трасянкі можна знайсці ў Квэбэку (Канада), дзе французскія словы вымаўляюцца на англійскі манер. Сумесі англійскай мовы і іншых менш распаўсюджаныя, найбольш пашыраны ў свеце. Ёсць Franglais (англа-французская трасянка), Spanglish (гішпана-англійская), Deutschlish (нямецка-англійская), Japlish (японска-англійская). Збольшага вышэй згаданыя сумесі адпавядаюць характарыстыкам нашага "роднага" говара.

Адно, што непакоіць, - у іншых краінах (а мне, як чалавеку, чыёй непасрэднай прафесіяй ёсць замежныя мовы, гэта добра бачна) з трасянкамі змагаюцца, ва ўсялякім выпадку на афіцыйным узроўні. А ў нас трасянку ўжывае нават наш галоўны інтэгратар. Дарэчы, мовы ён ужо "зынтэграваў" так, што некаторыя мае знаёмыя расейцы, калі ён размаўляе па радыё, не могуць зразумець, на якой ён гэта мове "излагает свои мысли". А хтось з іх нават думае, што ён,напэўна, увесь час па-беларуску гутарыць, а на расейскую ўвогуле пераходзіць вельмі рэдка,таму і акцэнт такі велізарны.

Яно сабе прэзідэнт, але бяда ў тым, што ён правобраз свайго народа. Трасянкай "грашыць" амаль што кожны. Ведаю я шмат паэтаў з СП, якія нібы гавораць па-беларуску, але так, што гэта мова здаецца вельмі несакавітай, нават квазірасейскай, крыху вось толькі паланізмамі забруджанай. Прыкра, але трасянка гучыць і з БТ, ёсць яна і ў газетах.

## *ПАШПАРТ*

Што ж мяне сапраўды раззлавала, дык гэта мой новы "сярпаста-малаткасты" пашпарт. Па-першае, як яны пераклалі маё імя? Андрей Храповицкий. Скажаце, правільна? Ды не! Мая нацыянальнасць не рускі, каб скажаць маё прозьвішча рознымі "наваротамі" расейскай арфаграфіі. Імя мусіць пісацца, як і па-беларуску, вось толькі "і" замяняецца на "и". Атрымаем Андрэй Храпавицки. Не здзіўляйцеся! Я ж не расеец, каб маё імя гучала па-расейску, нават у перакладзе. Чаму ў майго сябра Броўкі, у пашпарце напісана Бровка? **В** - не адпаведнік **ў**, як і няправільна пісаць замест Ўотсон - Ватсон, ці замест Фройд - Фрейд. Чаму мы, беларусы. мусім трываць непісьменнасць у нашых пашпартах?

Нядаўна размаўляў з адным з глыбоцкіх вялікіх начальнікаў. Ён не жадаў мяне называць Андрусём. Маўляў, у пашпарце напісана Андрэй, вось і трэба мяне называць Андрэем. Але цікава, хто-небудзь мяне спытаў, як правільна пішацца маё імя па-беларуску? Не!

А ці спыталі мяне, спецыяліста па замежных мовах, як маё імя пішацца па-англійску? Не! І што я маю ў пашпарце? Andrei Khrapavitski. Здаецца, усё правільна. Але гэта толькі здаецца. У краінах, дзе ў мове ўжываецца толькі кірылічая альфабэта, імёны перакладаюцца на лацінскую абэцэду паводле правілаў французскага правапісу. Але ж у беларускай мове ёсць і лацінка, паводле якой і павінны пісацца імёны ў нашых пашпартах. Правільна трэба пісаць Chrapavicki. Імёны ж чэхаў, палякаў, літоўцаў па-англійску пішуцца так жа, як і на роднай мове. А чаму я, беларус, мушу трываць скажэнні, вычварэнні над сваім прозьвішчам?

Чытаю далей: "пашпарт прыгодны для шматразовых выездаў..." Спыняюся. Ўаў! Як цікава. У мяне, значыць, прыгодны пашпарт! Але вось пра якія-такія прыгоды гаворыцца ў ім, я так і не зразумеў. Не, у беларускай мове ёсць словы і **прыгодны**, і **прыгоднасць**, але чаму не ўжыць больш шырока распаўсюджанае, больш аўтэнтычнае **прыдатны**. Французы не будуць ужываць слова **computeur**, бо ў іх ёсць сваё, больш французскае **ordinateur**. Ёсць у нас словы і чай, і магазін, але ёсць яны і ў мове нашага вялікага суседа, які любіць нам нагадаць, што мы ўсяго толькі ягоны "Северо-западный край". І вось такія ляпісы... прабачце, ляпсусы і забіваюць цвікі ў труну нашай з вамі, спадарове, незалежнасці і свабоды. Не ведаю, як вам, а мне сорамна паказаць мой пашпарт маім замежным таварышам і знаёмым.

## *ПЕРАПІС НАСЕЛЬНІЦТВА*

Прайшоў перапіс насельніцтва. Там было моўнае пытанне. І многія з вас, канечне, напісалі, што гавораць па-руску. Але падумайце, ці па-руску вы размаўляеце. Ацаніце шчыра вашыя веды гэтай вялікай і складанай мовы. Узгадайце таго рускага, які не разумеў, на якой мове прамаўляе наш *вождь*.

Ніякі перапіс і праводзіць не трэба, бо большасць размаўляе на трасянцы. Яна ненарміравана. У кагосьці бліжэй да расейскай, у кагосьці да беларускай. Але ці ж будзе шчырым адказ: я говорю по-русски, калі гэты русский сапраўднаму расейцу будзе рэзаць слых, а Пушкін ад яго ўжо зараз у труне варочаецца? Узгадайце, на якой мове размаўляе Лукашэнка. А на якой мове размаўляеш ты?

***Андрусь Храпавіцкі***

# ПІРАЦТВА

## Вясёлы Роджэр узняў свой сцяг над Беларуссю

Пірацтва было заўсёды праблемай краін трэцяга свету. Напрыклад, у Бразіліі амаль 100% відэа- і аўдыёпрадукцыі выпрабляецца прадстаўнікамі "Вясёлага Роджэра". Зараз з цэлай навалай розных падробак сутыкнуўся постсавецкі свет.

Аб`ём і межы пірацтва на Беларусі вельмі складана вызначыць. Афіцыйныя асобы называюць адны лічбы, незалежныя аналітыкі - іншыя. Шмат падробак завозіцца сюды "чаўнакамі" з краін Цэнтральнай Еўропы, асабліва Польшчы, і Бліжэйшага Ўсходу. Па словах некаторых з іх у ананімным інтэрв`ю для ВГ, беларусы ў цяперашніх эканамічных умовах проста не могуць дазволіць сабе дарагія арыгіналы, а, значыць і гандляваць імі нявыгадна. Менавіта таму многія "чаўнакі" пастаўляюць на нашы рынкі танную "пірацкую" прадукцыю, якую наш збяднелы народ яшчэ ў стане набыць.

Дарэчы, часцей за ўсё падрабляльная гандлёвая марка ў свеце - джынсы амерыканскай фірмы "Levi`s". Каб адрозніць пад-робку ад арыгінала, звярніце Вашу ўвагу найперш на якасць. Ніткі на пірацкіх джынсах прашытыя звычайна дрэнна на найніцы, а таксама літары на этыкетцы нанесеныя невыразна і размыта. Больш таго, піраты звычайна скажаюць назву прадукта ці фірмы-вытворцы арыгінала. Напрыклад, замест ADIDAS Вы можаце сустрэць на рынку красоўкі ADIADS ці ADDIDASS. Таму раю ўдакладняць, як правільна пішацца назва прадпрыемства, прадукт якога Вы хацелі б набыць. Што да сапраўдных джынсаў "Levi`s", Вы іх знойдзеце ў фірмовай краме кампаніі ў Мінску. Шкада толькі, што кошты там астранамічныя.

Што ж да відэа- і аўдыёпірацтва, тут нявольна апускаюцца рукі ў змагароў за аўтарскія правы. Літаральна ўсе касеты і кампакт-дыскі, якія Вы бачыце ў Глыбокім, Паставах, Браславе - гэта падробкі, прадукцыя Вясёлага Роджэра. Так, не здзіўляйцеся - кампанія "Vigma" - таксама піраты. Гэта польская фірма добра ўмацавалася на Беларусі, стаўшы лідэрам, калі не манапалістам айчыннага аўдыёрынку. Іх рэклама "круціцца" па БТ, ды і не хаваюць яны тое, што яны піраты. Пра гэта сведчыць іх інтэрв`ю "Музыкальной газете". Яны разумеюць тое, што парушаюць закон аб аўтарскіх правах, але аргумент у сваю абарону ў іх такі: арыгінал каштуе ці не ў 5-7 разоў даражэй. Ці стаў бы беларус купляць аўдыёкасету за мільён дзвесце тысяч рублёў? Наўрадці...

Змагацца з пірацтвам можна толькі змяніўшы эканамічна-палітычную сістэму ў Беларусі, каб нашы людзі адыйшлі ад тых часоў, калі ўсё было ўсіх і адначасова нічыё (а гэта і ёсць філасофія пірата), і адчулі смак нармальнага заможнага еўрапейскага жыцця, і, адначасова, смак сапраўднай, арыгінальнай прадукцыі.

***Ганрось Лёгас***

***Вяртаючыся да надрукаванага***

# СВЯТОЕ

Тое, што вакол нас шмат match рознага жулля – факт неаспрэчны. Доказам таму -- шматлікія мастацкія відэа і кінастужкі. Часта на экранах з`яўляецца заторканы сюжэт, як сумленны паліцыянт змагаецца са сваімі калегамі, якія, пачынаючы ад камісара і да шэраговага паліцыянта, прадаліся мафіі, а айчынныя стужкі "перакаталі" гэты сюжэт на міліцыю. Ёсць жулікі ў нью-йоркскай мэрыі і ў нашых "белых дамах", пачынаючы ад Брэста да Віцебска.

Між тым ніхто не "наехаў" на рэжысёраў і сцэнарыстаў гэтых фільмаў, а паліцыю і міліцыю ніхто не пачаў расфарміроўваць. Незалежна ад рэчаіснасці, у дадзеным выпадку гэта -- мастацкая выдумка аўтараў.

У свой час шмат хто з нашага начальства бегаў запыхкаўшыся, збіраючы подпісы і агітуючы галасаваць "за Кебіча". Аднак ніхто не паляцеў са сваіх месцаў і даволі ўтульна адчувае сябе сёння і гатовы ўжо аддана служыць новаму патрону.

Мастацкі твор "Святое", надрукаваны ў№№ 9-10 за снежань 1998 года ў "ВГ", закрануў за жывое выкладчыкаў Глыбоцкага ПТВ - 168. Адбылася гутарка з намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце сп. М.М. Арэхавым. Міхаіл Міхайлавіч закінуў аўтарам газеты нібы гэтым матэрыялам мы кідаем цень на Глыбоцкае ПТВ- 168. Я заўважыў, што ў гэтым матэрыяле нідзе не ўказана **канкрэтная** спасылка на *Глыбоцкае ПТВ -168*. А калі так, то няма ўвогуле тэмы для размовы.

Выглядае так, што нехта няўважліва чытаў матэрыял. Таму, для тых, хто не зразумеў патлумачым. Насуперак агульнаўсталяванай думцы, што ў ПТВ бяруць тых ад каго адмовілася школа і бацькі, мы выказваем сваю рашучую нязгоду.

Сярод **першых** аўтараў нашай газеты былы навучэнец Глыбоцкага ПТВ-168 Алесь Сварцэвіч. У №1(2) "ВГ" за люты 1995 г. былі надрукаваны яго вершы "Дзелім сябе... Што ў астатку?" і "Пра радзіму і пра сябе". **Цудоўныя вершы!** І сёння наша газета можа прапанаваць навучэнцам Глыбоцкага ПТВ-168 шмат цікавых праектаў, нашмат цікавейшых за задумкі БПСМ, які часова ўсплыў на небасхіл і знікне разам са зменай улады. Зрэшты, і не толькі навучэнцам, але і ўсім хлопцам і дзяўчатам Глыбоччыны. Прычым, у гэтых праектах няма ніякай палітыкі.

А што ж наконт артыкула "Святое" тлумачым. Аўтар шмат дзе пабываў, шмат чаго чуў і бачыў такога, аб чым афіцыйны друк не піша. Сюжэт артыкула -- не прыдуманы, а чуты, смакаваны ў размовах (не абавязкова ў Глыбокім).

Аўтар толькі прыдумаў мастацкае ўвасабленне, паставіўшы сябе ў ролі дзеючай асобы і задаўшы пытанне: што б ён рабіў у падобнай сітуацыі? Адказ яго адназначны: "не паліў бы "траўку", а дбаў бы пра незалежнасць. У кожнага свае шляхі-дарогі ў жыццё.

**Ул. С-н.**

# Старонка ад БелаПАН

## Водгукі на беларуска-расійскія дакументы.

### Руслан АЎШАЎ, прэзідэнт Інгушэціі:

-- Дзве бедныя краіны аб`ядноўваюцца, каб стаць яшчэ бяднейшымі, і будуць ганяць галечу з адной краіны ў другую.

### Мінцімер ШАЙМІЕЎ, прэзідэнт Татарстана:

-- Калі размова ідзе аб стварэнні новай дзяржавы, гэта істотна мяняе сітуацыю, адразу ўзнікае шмат праблем. Калі гэта саюзная дзяржава, Татарстан і шэраг рэспублік Расійскай Федэрацыі заявяць аб сваім месцы ў гэтай новай дзяржаве. Мы будзем прэтэндаваць на новую ролю на падставе праведзенага ў 1992 годзе ў Татарстане ўсенароднага рэферэндуму. Размова ідзе аб суверэннай дзяржаве, суб`екце міжнароднага права, якая будуе адносіны з Расійскай Федэрацыяй на падставе дамовы.

Я баюся такой сітуацыі. Калі вырашаюцца праблемы дзяржаўнасці, аб`яднанне двух дзяржаў, стаўка робіцца на тыя альбо іншыя асобы, на іх якасці, іх характар. Асобы прыходзяць і зыходзяць, а справы, якія яны нарабілі альбо вырабілі, застаюцца.

### Міхаіл ЗАДОРНАЎ, міністр фінансаў Расійскай Федэрацыі:

-- Размова ідзе аб адзінай валюце. Гэта патрабуе цэлага шэрагу неабходных умоў -- адзінага заканадаўства, адзінай падатковай сістэмы, аднаго, па сэнсу, Цэнтральнага банка, які праводзіць на ўсёй тэрыторыі агульнай саюзнай дзяржавы адзіную грашовую палітыку і з`яўляецца адзіным эмісійным цэнтрам. Адпаведна, мытныя межы павінны быць агульнымі. Ёсць шэраг неад`емных эканамічных умоў, якія неабходна выканаць, перад тым як прыйсці да адзінай валюты. У прынцыпе, пашырэнне адной эканамічнай прасторы, г. зн. пашырэнне свайго рынку – справа пазітыўная. Але без такіх крокаў ні аб якім рэальным аб`яднанні размовы быць не можа.

### Мікалай ГАНЧАР, дэпутат Дзярждумы:

-- У гэтай дэкларацыі сказана, што да сярэдзіны 1999 года будзе распрацавана і вынесена на ўсенароднае абмеркаванне дамова аб аб`яднанні Расіі і Беларусі ў саюзную дзяржаву. Так дзяржавы не ствараюцца. Я не ведаю такой юрыдычнай працэдуры -- усенароднае абмеркаванне. Па Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі адзінай крыніцай улады ў краіне ёсць народ. Таму такія пытанні можна вырашаць толькі праз рэферэндум. З майго пункту гледжання, есць толькі адно зразумелым, выразная прапанова, якую мы прапрацоўвалі на працягу двух гадоў. Сэнс яе ў наступным: нам неабходна правесці два рэферэндумы. Першы -- кансультатыўны, і задаць грамадзянам Расіі пытанне, ці жадаюць яны жыць у адзінай дзяржаве з Беларуссю. Аналагічны рэферэндум неабходна правесці і ў Беларусі. На рэферэндуме неабходна вызначыць тып дзяржавы. Не бывае саюзных дзяржаў, бываюць дзяржавы федэратыўныя, канфедэратыўныя і ўнітарныя.

На другі, ратыфікуючы, рэферэндум, у выпадку атрымання станоўчага адказу на першым, трэба вынесці дамову і, што вельмі важна, праект канстытуцыі будучай краіны. Людзі павінны дакладна ведаць, хто і як будзе вызначаць іх лёс і ў якой ступені яны могуць паўплываць на свой лёс самі.

Па расійскіх законах, мінімальны тэрмін на падрыхтоўку рэферэндуму -- 250 дзён.

### Віктар ЧАРНАМЫРДЗІН, экс-прэм`ер урада Расіі, лідэр руху "Наш дом -- Расія":

-- Мы рыхтаваліся да такога кроку. Трэба пакласці вельмі сур`ёзныя разлікі -- што гэта дасць нам і беларусам. Калі гэта будзе зроблена і мы ўбачым, што на гэтым мы не губляем, трэба выходзіць да расіян і запытаць. Гэта рашучы крок двух прэзідэнтаў, але гэта не азначае, што гэта адбудзецца заўтра.

Чаму прэзідэнтам аб`яднанай расійска-беларускай дзяржавы абавязкова павінен быць Лукашэнка, прычым тут Лукашэнка? Магчыма, гэта і будзе рэальна калі-небудзь. Калі адбудзецца гэты саюз, у якім выглядзе ён будзе? У крайнім выпадку, да 2000 года -- гэта проста нерэальна. Зараз гэта выключана, гэта проста не атрымаецца.

### Валерыя НАВАДВОРСКАЯ, лідэр партыі "Дэмакратычны саюз Расіі":

-- Калі некаму вельмі хочацца, каб у нас яйкі выдавалі па штуцы ў месяц, як на Кубе, то, мне здаецца, Беларусь ужо туды прыплыла, таму што там дэпутатам выдавалі па два дзесяткі, а грамадзянам наогул нічога не выдаюць, яны змогуць самі нясціся. Пытанне, якое выносіцца на рэферэндум, павінна быць сфармулявана так: "Ці жадаеце вы, каб Расія страціла сваю палітычную незалежнасць і эканамічны патэнцыял, аб`яднаўшыся з таталітарнай Беларуссю пад кіраўніцтвам апошняй?" Вось адно пытанне і адказ: так альбо **не**.

### Сямён ШАРЭЦКІ, старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі трынаццатага склікання:

-- Прычыны, якія піхаюць Лукашэнку на такі крок, добра вядомыя. 20 ліпеня 1999 года скончаецца тэрмін яго прэзідэнцкіх паўнамоцтваў. За мінулыя чатыры з паловай гады ён давёў нашу краіну, як кажуць, да ручкі. Працалюбівы беларускі народ, які заўсёды ганарыўся поспехамі ў сельскай гаспадарцы, сёння стаіць у чэргах за яйкамі, малаком, не можа купіць масла.

Таму Лукашэнка добра разумее, што на наступных прэзідэнцкіх выбарах, якія павінны прайсці ўжо вясной, яму больш не ўдасца спадмануць народ сваімі пустымі абяцанкамі. А такія выбары Вярхоўны Савет прызначыць ужо ў пачатку будучага года. (1999 -- **рэд.**) І не толькі прызначыць, але і акрэсліць серыю мерапрыемстваў, якія павінны забяспечыць дэмакратычныя выбары.

Мне незразумелая пазіцыя расійскіх палітыкаў -- няўжо яны не бачаць, што Лукашэнка імкнецца толькі да аднаго: стаць прэзідэнтам аб`яднанай дзяржавы!? Няўжо ім хочацца, каб і народ Расіі стаяў у чарзе за прадуктамі?

### Станіслаў ШУШКЕВІЧ, старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі дванаццатага склікання:

-- Дакументы ў Маскве падпісалі два хворыя чалавекі: адзін хворы фізічна, другі, як кажуць у нас на Беларусі, "хворы на галаву". Думаю, калі б на рэферэндум па пытанню аб`яднання двух краін быў праведзены ў нас чэсна, без падтасовак, то большасць выказалася б супраць. Людзі ж не дурні. Яны цудоўна разумеюць, што прасцей асушыць нашу беларускую балаціну, чым вялізнае расійскае, а ўжо тым больш адзінае.

### Мечыслаў ГРЫБ, старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі дванаццатага склікання:

-- Падпісаўшы гэтыя дакументы, прэзідэнт Лукашэнка парушыў не толькі Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года, але і фактычна дзеючую Канстытуцыю, у прыватнасці артыкулы 8, 45 і іншыя. Лукашэнка сказаў, і гэта паказалі па тэлебачанню, што ў выпадку неабходнасці асобныя палажэнні Асноўнага закона будуць зменены. Але так не паступаюць нават у самых таталітарных дзяржавах.

### Генадзь КАРПЕНКА, старшыня Нацыянальнага выканаўчага камітэта -- "ценявога" урада:

-- Абое прэзідэнты -- і расійскі, і асабліва беларускі -- проста збанкруціліся. І каб хоць неяк адцягнуць увагу людзей ад правалаў у эканоміцы, прыдумалі чарговы этап "інтэгравання". Я б не надаваў усяму гэтаму вялікага значэння. Падобна, гэта проста другая частка спектакля, які пачаўся яшчэ ў красавіку 1996 года. Да ўсяго гэтага цудоўна падыходзіць назва "Шмат шуму-з-за нічога".

## Міхаіл ЧЫГІР:

*"Наколькі ж бязглузда трэба арганізаваць справу, каб на Беларусі, дзе на душу насельніцтва прыпадае больш усяго ворыўных зямель у Еўропе, не было чым накарміць народ!"*

## Кожны другі жыхар Беларусі чакае пагаршэння матэрыяльнага становішча сваёй сям`і

Пачынаючы з 1996 года вучонымі Навукова-даследчага інстытута Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь праводзяцца штоквартальныя даследванні, накіраваныя на вывучэнне эканамічных умоў жыцця грамадзян рэспублікі. Прадстаўнікам розных сацыяльна-дэмаграфічных груп дарослага насельніцтва Беларусі (у 1996 годзе -- двум тысячам, у 1997/1998 – 1200) прапануецца ацаніць перспектывы росту цэн, змены матэрыяльнага становішча сем`яў і іншых аспектаў жыцця. Апытанне праводзіцца ў 6 абласцях, 50 населеных пунктах рэспублікі. Ніжэй, з улікам вынікаў апошняга (снежаньскага) апытання жыхароў краіны, выкладаюцца дадзеныя ( у тым ліку і параўнальныя) па некаторых пытаннях анкеты.

| Як вы ацэньваеце сённяшняе матэрыяльнае становішча вашай сям`і ў параўнанні з тым, што было 6 месяцаў таму (у працэнтах) | 1996 год квартал | | 1997 год квартал | | 1998 год квартал | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | II | IV | II | IV | II | IV |
| 1. Стала значна лепш | 2 | 3 | 1 | 1 | 3 | 1 |
| 2. Не нашмат лепш | 13 | 13 | 10 | 14 | 15 | 3 |
| 3. Засталося такім самым | 35 | 35 | 39 | 40 | 40 | 16 |
| 4. Стала крыху горш | 26 | 29 | 26 | 25 | 25 | 40 |
| 5. Стала нашмат горш | 22 | 17 | 21 | 18 | 15 | 38 |
| 6. Цяжка сказаць | 2 | 4 | 2 | 3 | 2 | 2 |

Табліца №2

| Як вы лічаце, як зменіцца матэрыяльнае становішча вашай сям`і ў наступныя 6 месяцаў (у працэнтах) | 1996 год квартал | | 1997 год квартал | | 1998 год квартал | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | II | IV | II | IV | II | IV |
| 1. Стане нашмат лепш | 2 | 1 | 1 | 1 | 2 | 1 |
| 2. Стане крыху лепш | 12 | 18 | 15 | 15 | 15 | 8 |
| 3. Застанецца нязменным | 37 | 25 | 32 | 37 | 40 | 15 |
| 4. Стане крыху горш | 17 | 15 | 15 | 16 | 14 | 25 |
| 5. Стане нашмат горш | 11 | 10 | 12 | 11 | 8 | 25 |
| 6. Цяжка сказаць | 21 | 31 | 25 | 21 | 21 | 26 |

Табліца №3

| Як, на ваш погляд, змянілася агульнае эканамічнае становішча ў краіне за апошнія 6 месяцаў (у працэнтах) | 1997 год квартал | | 1998 год квартал | |
|---|---|---|---|---|
| | II | III | II | IV |
| 1. Стала нашмат лепш | 1 | 0 | 1 | 0 |
| 2. Стала крыху лепш | 12 | 14 | 12 | 2 |
| 3. Засталося нязменным | 25 | 32 | 25 | 5 |
| 4. Стала крыху горш | 25 | 21 | 34 | 25 |
| 5. Стала нашмат горш | 17 | 14 | 14 | 53 |
| 6. Цяжка сказаць | 20 | 19 | 14 | 14 |

Табліца №4

| На працягу наступных шасці месяцаў, на вашу думку: (у працэнтах) | 1997 год квартал | | 1998 год квартал | |
|---|---|---|---|---|
| | II | IV | II | IV |
| 1. Будзе больш хуткі рост коштаў, чым за папярэдні перыяд | 18 | 18 | 21 | 33 |
| 2. Кошты будуць расці такімі самымі тэмпамі | 47 | 53 | 52 | 41 |
| 3. Кошты будуць расці павольней | | | | |
| 4. Кошты застануцца прыблізна | 12 | 9 | 9 | 8 |
| такімі ж | 8 | 5 | 9 | 2 |
| 5. Кошты нязначна зменшацца | -- | 1 | 1 | 1 |
| 6. Цяжка сказаць | 15 | 15 | 8 | 15 |

Табліца №5

| Якое з дадзеных выказванняў найлепшым чынам апісвае сённяшняе грашовае становішча вас і вашай сям`і | 1997 год квартал | 1998 год квартал | |
|---|---|---|---|
| | I | I | IV |
| 1. Мы залезлі ў пазыку | 7 | 5 | 5 |
| 2. Мы вымушаны выкарыстоўваць нашы зберажэнні. | 10 | 7 | 9 |
| 3. Нам ледзьве шанцуе звесці канцы з канцамі | 49 | 44 | 51 |
| 4. Мы крыху адкладваем | 20 | 32 | 24 |
| 5. Мы адкладваем шмат грошай | 1 | 2 | 1 |
| 6. Цяжка сказаць | - | 10 | 10 |

**Параўнанне гэтых ацэнак матэрыяльнага становішча сямей беларусаў з ацэнкамі канца 1997 г. і сярэдзіны 1998 года паказвае: за апошнія паўгода адбылося заўважнае змяненне эканамічнага становішча ў горшы бок. Так, калі раней у ходзе апытанняў на пагаршэнне становішча сваіх сямей указвалі 43-40% рэспандэнтаў, то ў канцы 1998 года -- 78%.**

**Змяніліся і надзеі жыхароў рэспублікі на змяненне эканамічнага становішча сваіх сямей у бліжэйшыя 6 месяцаў. Раней да пагаршэння былі падрыхтаваны 22-27% апытаных, цяпер жа -- кожны другі.**

**Не лепшыя справы і з ацэнкай агульнай эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы. Мяркуючы па адказах, эканамічнае становішча Беларусі прыкметна пагоршылася. Калі ў трэцім квартале 1997 г. яго пагаршэнне адзначалі 35% апытаных, у сярэдзіне 1998 г. 48%, то зараз -- 78% рэспандэнтаў. І паляпшэння эканамічнай сітуацыі ў краіне людзі не чакаюць. Кожная другая беларуская сям`я "ледзьве зводзіць канцы з канцамі". Падлічваецца колькасць насельніцтва, якая чакае больш хуткага, чым паўгода таму, росту коштаў.**

